№ 7-8 [22-23] ЛІПЕНЬ-ЖНІВЕНЬ 1949 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

З ведай, верай, надзеяй і любоўю да лепшае будучыні.

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE».
Mensuel religieux biélorussien.

| Цана нумару 40 фр. | Адрэс рэдакцыі: Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6). Chèque Postal : Paris c. 628744. | Падпісная цана на год 350 фр. |
| --- | --- | --- |

# Божая кара

Перажываць у дваццатым веку прасьледаваньне за веру, здавалася-б нечым неверагодным, але сумныя факты сьведчаць аб чым іншым. Дваццаты век стаўся сьведкам найлюцейшых прасьледаваньняў за веру.

Дзіўна гэта, калі падумаем, што яно дзеецца якраз тады, калі шмат гаворыцца аб свабодзе чалавека, аб гуманізьме, аб дэмакрацыі; аб гэтым штодня, і ґазэты пішуць, і радыё галосіць. І якраз там, дзе найбольш крычаць аб свабодзе сумленьня, там найбольш жорстка гэтую свабоду душаць. І гэта дзеецца ў хрысьціянскіх краінах, у якіх хрысьціянства ўжо больш тысячы гадоў запусьціла свае карані. І тыя, якія сёньня вядуць наступ на хрысьціянства, ня ёсьць паганамі з роду. Не! Яны ўсе хрышчаныя людзі і навучаліся калісьці ў маленстве катэхізму, а сёньня сталіся другімі Юльянамі Адступнікамі і ўсе свае сілы аддаюць на паслугі Люцыпару, на змаганьне супраць хрысьціянства. Як гэта магло стацца. Далёка і глыбока знаходзяцца карані гэтага няшчасьця. Каб ня шмат аб іх расьпісвацца і каб ня браць выключна на сябе адказнасьці за прыкрае для нас хрысьціян прызнаньне,можна спаслацца на праф. Сьцяпана Борн, які сёлета на Тыдні Французскіх Інтэлектуалістаў заявіў, что сучасны «марксізм у прынцыпе стаўся зводнаю і нэталерантнаю рэлігіяю, які аднак у запраўднасьці ёсьць караю на хрысьціянства, якое вельмі часта было неажыцьцяўляным і фарысейскім». Яшчэ раней тую самую думку выказаў праваслаўны праф. І. А. Ільін, кажучы, што «ўздым ваюючага бязбожжа ёсьць суровым судам над рэлігійнасьцю вынашанаю чалавецтвам за апошнія вякі і тысячагодзьдзі».

Гэтага прыкрага факту нельга схаваць і няма патрэбы хаваць. Наадварот, калі Бог карае сьвет, дык неабходна ўсьведаміць сабе, зашто Ён карае і пастарацца чымхутчэй паправіцца. Трэба мець адвагу глянуць праўдзе ў вочы.

А бесьпярэчнаю праўдаю ёсьць тое, што сучасны наступ бязбожнасьці, ёсьць найдалей ідучае практычнае ажыцьцяўленьне ў кожнай галіне грамадзкага і асабістага жыцьця тых бязбожных ідэяў, якімі жылі кіруючыя кругі на пачатку гэтага стагодзьдзя. Цяпер іхныя ідэі практычна і найбольш пасьлядоўна ажыцьцяўляюцца за зялезнаю заслонаю і ў дзяржаве, і ў школе, і ў адміністрацыі, і ў прыватным жыцьці. Калісьці патураючы бязбожным верхаводам, хрысьціянства вернікаў практыкавался мала, а то і зусім не практыкавалася — яно абмяжоўвалася да дробных абрадовых практыкаў па-за якімі жыцьцё хрысьціян нічым ня розьнілася ад паганаў, каб не сказаць яшчэ горш.

Цяпер выглядае, быццам Бог сказаў: «Хацелі бязбожнага жыцьця — скаштуйце яго». І ў гэтым ёсьць кара для людзей, што самі, непрактыкуючы сваіх рэлігійных пераканаҥьняў, наклікалі бяду на сваю галаву, сваею рэлігійнаю бязьдзейнасьцю.

Сучаснае палажэньне ня ёсьць нейкім вынятакам ў гісторыі. Так было адвякоў, што Бог даваў людзям магчымасьць асягаць хоць часткава ня толькі добрыя, але і дрэнныя жаданьні. Бог успамагае добрыя ўчынкі, але так-жа не параш-

каджае і цяжка грашыць. Калі людзі здабывалі свае дрэнныя жаданьні, тады маглі ясна бачыць сваю памылку і апамятаўшыся сказаць: «Ня Божае караньне, а сваё дураваньне», як гэта кажа беларуская прыказка. Прыповесьць Хрыста аб блудным сыне, так-жа вымоўна сьведчыць аб тым самым: «У аднаго чалавека былі два сыны; і сказаў малодшы з іх айцу: Бацька, дай мне належную мне частку маемасьці. І айцец падзяліў ім маемасьць» (Лук. XV, 11-12). Айцец не пераконвае малодшага сына, не спрачаецца з ім. Ён проста здавальняе ягоную просьбу, добра ведаючы ў якую вялікую бяду і цярпеньне накіроўваецца малодшы сын. Бог даў чалавеку свабодную волю і ніколі ня хоча гэтае свабоды адбіраць, ані яе гвалтаваць.

Такім спосабам Бог кіруе ня толькі доляй паасобных людзей, але і цэлымі народамі і дзяржавамі; і з гэтага гледзішча трэба разглядаць сучаснае міжнароднае палажэньне.

Калі сьв. Пісаньне бязбожнасьць называла дурнатою («Сказаў дурны ў сэрцы сваім: няма Бога» (Пс. XIII, 1), дык на сорам для людзтва знайшлося нямала такіх «мудрацоў», якія бязбожнасьць выхвалялі, як найбольшую мудрасьць. І вось бачым, што Бог, калі меў у сваіх плянах магчымасьць дазволіць блуднаму сыну ўладзіць жыцьцё на блудны лад, дык і бязбожным мудрагелям не адмовіў уканцы магчымасьці перабудаваць грамадзкі лад паводля іхных меркаваньняў.

І пацяклі сьлёзы, кроў, запоўніліся турмы, паўсталі лягэры... Можа нарэшце цяпер адчыняцца вочы ў людзей і зразумеюць, што кожная будова бяз Бога зьяўляецца толькі прыбудоўкаю да пекла.

Гэта адначасна для нас, беларускае эміграцыі, зьяўляецца грознаю асьцярогаю і вялікаю навукаю, каб у нашым штодзенным жыцьці навучыцца даваць належны адказ розным бязбожным партыйным дзеячом і ўсякім дробным бязбожным «беспартыйным» прайдзісьветам, для якіх Божыя прыказаньні ў штодзенным жыцьці ня існуюць. Пустымі нараканьнямі на іншых свайго жыцьця не паправім, шуканьнем трэскаў у вачох іншых сябе не палепшым. Лепш прыслухаймася да голасу Хрыста: «Прыйдзеце да Мяне ўсе спрацаваныя і абцяжаныя і Я супакою вас» (Мат. XI, 28), ды йдзем на гэты Ягоны кліч.

# Вайна і Эвангельле

Разважаньне аб вайне ніколі не перастае быць актуальным, і тады калі равуць гарматы, і тады, калі яны маўчаць. Людзкая думка часта займаецца гэтым жахлівым зьявішчам пры розных нагодах і з рознага гледзішча, таму няма дзіву, што пры сучасным палітычным міжнародным напружаньні чуецца слова «вайна» і ў прыватных гутарках, і ў прэсе, і ў радыё. У гэтых гутарках ня раз вырынае пытаньне: Ці можна пагадзіць вайну з Эвангельлем?

Пытаньне гэтае ня новае. Яно старое, як само хрысьціянства і ўжо ад першых вякоў адказвалі на яго розна. Пасьля доўгіх і ўсебаковых дыспутаў праводныя ерархі Хрысьціянскае Царквы разрозьнівалі вайну справядлівую і несправядлівую; першую з іх уважалі за дазволеную з рознымі засьцярогамі, другую асуджалі. Але былі і такія багасловы, як: Тацыян († 170), Тэртуліян († 240), Орыген († 254), Ляктанцый (IV в.), — якія падобна да сучасных сэктантаў: баптыстаў і талстоўцаў вучылі, што ваеннае службы нельга ніякім чынам пагадзіць з абавязкамі хрысьціяніна. Яны ўважаюць, што гэткае становішча вынікае са слоў Хрыста: «А Я кажу вам: не супраціўляйцеся злу; але калі хто вытне цябе ў правую шчаку, павярні да яго і другую» (Мат. V, 39), «Хто ўзяў меч, ад мяча і загіне» (Мат. XXVI, 52) і са слоў ап. Паўла: «Багаслаўляйце тых, каторыя вас прасьледуюць; багаслаўляйце, а не клянеце... Нікому не адплачвайце злом за зло, але старайцеся аб добрае перад усімі людзьмі... Ня помстуйце за сябе, умілаваныя, але дайце мейсца Божаму гневу. Бо напісана: Мне помста, Я аддам! кажа Госпад» (Рым. XII, 14, 17, 19).

Аднак як заўсёды і ўсюды, так і ў гэтым выпадку, вырваныя сказы можна паясьняць розна. Каб належна іх разумець, трэба памятаць, што ўсё сьв. Пісаньне становіць адну непадзельную суцэльнасьць, таму вышэй успомненыя сказы сьв. Пісаньня ніколі правільна не паясьніць той, хто ня ўзгляднiць, што ў тым-жа сьв. Пісаньні нідзе няма асуджаньня жаўнераў. Наадварот, калі жаўнеры прыходзілі да Івана Хрысьціцела з пытаньнем, што ім рабіць, атрымалі адказ: «нікога ня крыўдзіце, не абмаўляйце і здавальняйцеся сваею платнёю» (Лук. III, 14). Наступна бачым, як Сам Хрыстос хваліў веру сотніка з Капэрнауму, кажучы: «Запраўды кажу вам і ў Ізраілю Я не знайшоў гэткае веры» (Мат. VIII, 10) і ні адным словам ня ганіць ягонае ваеннае прафэсіі. Такжа і ап. Пятро хваліць веру сотніка Карнілія (Дзеян. Ап. X, 22).

Ды ня толькі гэткая быццам недагаворанасьць сьв. Пісаньня можа апраўдваць існаваньне ваеннае службы, у іншых мейсцах маем выразныя словы Хрыста: «Цяпер хто мае мяшок, вазьмі яго..., а ў каго няма, прадай вопратку сваю і купі меч»

(Лук. XXII, 36). Больш таго, у сьв. Эвангельлі бачым, як Хрыстос, ня могучы глядзець абыякава на зьняважаньне сьвятыні, з бізуном у руках выганяе адтуль купцоў, перавяртае сталы мяняйлаў (Іван. 11, 15). Калі падчас суду, архірэйскі слуга выцяў Хрыста ў аблічча, дык не падставіў другі раз, але казаў: «Калі Я сказаў дрэнна, дакажы, што дрэнна, а калі добра, дык зашто б'еш Мяне?» (Іван, XVIII, 23). Гэткія паводзіны Хрыста і адказ для парушанае тут справы тым больш важныя, што якраз паходзяць з таго часу, калі Хрыстос рыхтаваўся прыняць найбольшыя абразы, мукі і сьмерць дзеля збаўленьня чалавецтва і ў гэтым самым часе стараецца перашкодзіць архірэйскаму слузе паўтарыць паганы чын супраць Сябе.

Усё гэта неаднаму можа выдавацца супярэчнасьцю, у сапраўнасьці-ж тут няма ніякае супярэчнасьці, але ўзаемнае дапаўненьне і выясьненьне адносна эвангельскага разуменьня міру і супакою.

У найдаўнейшых прароцтвах сьв. Пісаньня гаворыцца аб Хрысьце-Мэсіі, што Ён мае быць «Валадаром супакою» (Ісаія IX, 5), што Ягоным заданьнем будзе даць сьвету мір без канца: «Тады... воўк будзе жыць з ягнём і леопард з казьлянём; цяля, леў і авечка будуць жыць разам і малое дзіця будзе ім праваднікам» (Ісаія, XI, 6). Тады народы «перакуюць свае мячы на нарогі і дзіды на матыкі, і не падыме больш мяча адзін народ супраць другога народу і ня будзе тады больш вайны» (Міхэй IV, 3). Гэткае ёсьць пасланство Хрыста і гэткі ёсьць дух Хрыста, але пытаемся: Калі-ж гэта магчыма і калі гэта будзе?

Магчыма гэта тады, калі Хрыстос завалодае ў сэрцы кожнга чалавека, калі Ягоную навуку будуць усе выконваць ня пустым жаданьнем, але штодзенным учынкам і калі хрысьціянства разыдзецца па ўсім сьвеце. У гэтым напрамку і павінна весьціся хрысьціянізацыя сьвету і ў гэтым напрамку магчыма асягнуць пацыфікацыю і разбраеньне, аб чым так часта вядуцца шматмоўныя дыспуты ў высокіх кіраўнічых колах. Але з гэтага ясна вынікае, што кожны той, што падрывае хрысьціянізацыйную працу, хто прасьледуе хрысьціянства, тым самым руйнуе мір, рыхтуе сабе на галаву вайну.

У гэтай справе плян Божы вельмі выразны. Падобна, як Бог стварыў людзей для вечнага шчасьця ў небе, але дзеля гэтага вымагае, каб захоўвалі Ягоныя прыказаньні, калі-ж ня будуць захоўваць іх, дык асудзіць на вечную муку ў пекле; таксама і ў справе міру — Хрыстос прышоў на сьвет і прынёс навуку, як гэты мір асягнуць, але да часу пакуль ў чалавеку бяруць верх дзікія неакелзаныя інстынкты, пакуль у штодзённых паступках нават самыя хрысьціяне нічуць ня розьняцца ад нехрыстаў, Хрыстос радзіць сваім вучням «Прадай вопратку сваю і купі меч», бо, як сумны досьлед вучыць людзей на працягу тысячагодзьдзяў, у няхрысьціянскіх грамадзкіх і дзяржаўных ладах часта даходзіць да таго, што замест праўды пануе сіла, замест права — зьдзек і несправядлівасьць, замест справядлівасьці — гвалт; — гэткае «мірнае» жыцьцё нярaз стае жахлівейшым за вайну. У гэткім жахлівым палажэньні прыходзіцца прыгнобленаму чалавеку з сумам выбіраць: каторае зло меншае? Крывавыя досьледы таталітарных дзяржаўных парадкаў аднazгодна сьведчаць, што там і бяз вайны штодзенна могуць гінуць тысячы людзей больш, чым на самым крывавым фронце. У гэткім жудасным палажэньні даходзіць да таго, што прыходзіцца згадзіцца з братамі Макабэямі: «Лепш нам памерці ў вайне, чым бачыць ліхую долю свайго народу і сьвятыняў» (І. Макаб. III, 59).

З гісторыі Ізраільскага народу ведама, што ў гэткіх выпадках Бог дазваляе вайну; ведама, што Ісус Навін, Самсон, Гэдэон і Давід ваявалі па загаду Бога.

Адгэтуль вынікае зусім лягічна, што вайна часам можа быць у Божых плянах. Падобна, як бацькі караюць сваіх любых дзяцей за розныя правіны, няпослух і злочыны, так і добры Бог, карае людзкі род войнамі за некаторыя цяжкія грахі.

Непахвальны для нас гэты выснавак, але нажаль праўдзівы. Таму аднак, што гэткі выснавак можа быць прадметам розных непаразумленьняў неабходна яго выясніць крыху шырэй.

Вайна, якая-б яна ня была, ёсьць злом і аб ёй можа быць гутарка толькі тады, калі ўжо няма выбару між дабром і злом, але між злом большым і меншым. Але нават і ў гэтым выпадку ня можа быць гутаркі аб справядлівай вайне, калі нехта хоча адплаціць злом за зло — такая вайна ўсёроўна будзе несправядлівай і недапушчальнай з хрысьціянскага гледзішча. Сьв. Аўгустын кажа, што «вайна між запраўднымі Божымі слугамі ёсьць пацыфістычная, бо яна прыймаецца не дзеля пажадлівасьці, ані з жарстокасьці, але ў намеры асягнуць мір, прывесьці да парадку злосьнікаў і даць здаваленьне добрым. Такія войны не супрацiўляюцца любові ворагаў, загаданае Хрыстом, бо ня людзей і не народ ненавідзіць той, хто абвяшчае вайну, але ягоныя дрэнныя ўчынкі; і вайна не працівіцца даравальню крыўдаў, бо іншая справа караць праўна дрэнныя ўчынкі, а іншая помставаць».

Калі-б аднак нехта і да гэтага паясьненьня заўважыў, што яно можа супярэчыць словам Хрыста, сказаным да ап. Пятра: «Хто ўзяў меч, ад мяча загіне», якімі Хрыстос абязброіў апостала, дык той-жа сьв. Аўгустын паясьняе, што гэтыя словы Хрыста адносяцца толькі да тых, «хто бярэ меч і важыцца на жыцьцё іншых, не атрымаў-

шы ані дазволу, ані загаду праўнае вышэйшае ўлады», як гэта рабіў ап. Пятро ў Аліўным гародзе.

Гэтыя думкі сьв. Аўгустына падтрымоўвае і разьвівае далей сьв. Тамаш з Аквіну (Сумма, II, II, кв. LX, арт. 1, 1), дадаючы, што хто па загаду праўнае ўлады, ці судзьдзі, ці з рэўнасьці да справядлівасьці карыстаецца мячом, ня сам яго тады бярэ, але карыстаецца ім у імені даручаючага і таму не падлягае кары.

Думка сьв. Аўгустына, распрацаваная сьв. Тамашом з Аквіну, сёньня агульна прынятая ў каталіцкай багасловіі. Яна, як зазначана на пачатку разрозьнівае вайну справядлівую ад несправядлівае, залічаючы да справядлівых тыя, 1) якія абвяшчаюцца праўнаю ўладаю, а не прыватнаю асобаю, 2) дзеля справядлівае адпаведна цяжкае прычыны, якою можа быць насільства і бясправўе і 3) калі ёсьць шчыры намер устанавіць справядлівы мір. (Сумма, II, II, кв. LX, арт. 1, 4).

Лішне нават і дадаваць да гэтага паясьненьня, што войны, якія маюць на мэце толькі зьнішчэньне і ўпраўненьне гвалту,рабунак чужых земляў, — ніякім чынам ня могуць быць залічаныя да справядлівых, не зважаючы на тое, што ў гэткай арміі знайходзяцца сьвятары-духоўнікі.

Прысутнасьць сьвятароў-духаўнікоў у арміі зусім не азначае, што Царква справу данае арміі лічыць за слушную. Сьвятар агулам мусіць быць там, дзе ёсьць вернікі, каб несьці ім духоўныя паслугі. Ягоным заданьнем ёсьць дбаць аб збаўленьні душы, асабліва ў тым мамэнце, калі ёсьць небясьпека, што гэтая душа можа быць кожнае хвіліны паклікана перад аблічча найвышэйшага Судзьдзі.

Даючы гэтыя кароткія выясненьні неабходна зазначыць, што Хрыстова Царква заўсёды ўважала і сёньня ўважае вайну, як азнаку недастатковае хрысьціянізацыі грамадства і дакладае ўсіх сілаў, каб паглыбіць гэтую хрысьціянізацыю і пашырыць яе па ўсім сьвеце, ведаючы, што толькі тады зьдзейсьняцца словы анельскага сьпеву, якія лунаглі на небе падчас нараджэньня Хрыста, калі ўвесь сьвет зможа паўтараць за анёламі: «Слава на небе Богу», тады настане «на зямлі мір людзям добрае волі». І аб гэтым міру моляцца ў хрысьціянскіх Цэрквах і дзеля яго цяжка і ахвярна працуюць шчырыя вернікі.

**а. Лазар.**

---

# Дзейнасьць сьв. Еўфрасіні

Пераказваючы ў кароткіх словах жыцьцё сьв. Еўфрасіні, няраз прыходзілася зьвяртаць увагу на розныя дробныя жыцьцёвыя здарэньні, за якімі калі-ні-калі быццам губляўся агульны абраз яе дзейнасьці, таму неабходна зьвярнуць асобную ўвагу, на галоўны кірунак гэтае дзейнасьці, каб абраз самое сьвятое стаў перад нашымі вачыма ў ясьнейшым сьвятле.

Поле дзейнасьці сьв. Еўфрасіні было вельмі шырокае і даволі ўрадлівае. Да гэтага спрычыніліся тры дзейнікі: яе ўроджаная здольнасьць, высокая асьвета і асаблівая ласка Божая. Усё гэта натхняла яе да важных і адважных пачынаньняў і, не зважаючы на ніякія перашкоды і цяжкасьці, не зьнеахвочвала яе аж датуль, пакуль не асягала намечанае мэты.

Аб надзвычайных прыродных здольнасьцях сьв. Еўфрасіні сьведчыць яе нахіл у раньняй маладосьці да глыбокіх разважаньняў над сэнсам жыцьця; яе нахіл да навукі і лёгкае ўспрыйманьне граматы, а найважнейшае дык гэта тое, што яна мела нязломную волю разьвіць гэтыя свае здольнасьці магчыма найлепш і ахвяраваць іх на службу Богу і народу. Мы бачылі, што ані багацьце, ані слава, ані княжыя пачасьці, ані абяцанкі зямнога шчасьця, ані бацькоўская любоў, ані нават сьлёзы родных і любых бацькі і маці не адвялі сьв. Еўфрасіні ад пастановы ахвяраваць усё свае жыцьце Богу. У гэтым і ёсьць яе веліч, што ўсе свае здольнасьці, усе магчымыя пачасьці і дачасную славу, яна **сьведама і дабраволна прынесла ў ахвяру Богу за асьвячаньне і асьвечаньне свайго народу.**

Яна не шкадуе сілаў над разьвіцьцём сваіх здольнасьцяў, каб гэтым самым яе ахвяра была большая і сьвяцейшая. Мы бачылі, што сьв. Еўфрасіня ўдома атрымала толькі пачаткавую асьвету, але потым з першага свайго манастыра яна перасяляецца ў сьвята-Сафійскую царкву, дзе была вялікая бібліятэка і там саматужна здабывае вышэйшую асьвету, якую тады агулам можна было здабыць і адначасна дакладае ўсіх сілаў для пашырэньня гэтае асьветы між сваіх суродзічаў. Яна ня толькі перапісвае кнігі, але таксама і перакладае іх з грэцкае і лацінскае мовы на сваю родную, каб гэткім чынам узбагаціць сваю літаратуру. Пад яе рукою кожная чорная літарка на белым аркушы пэргамэну замянялася ў ясны праменьчык, які разьліваўся цудоўным зьзяньнем і разыходзіўся шырока па беларускай зямлі.

Божая ласка бачна падтрымоўвала на кожным кроку яе кволыя жаночыя сілы і гартавала да вялікіх учынкаў. Ніводнае яе пачынаньне не асталося недаконченым. У яе жыцьці ёсьць ясны прыклад, як зьдзейсьніваюцца словы Хрыста: «Шукайце перш валадарства Божага і справядлівасьці Яго, а ўсё іншае даложыцца вам».

За сьветлым прыкладам сьв. Еўфрасіні паў-

ставалі разрасталіся адзін за другім жаночыя і мужчынскія манастыры, пры іх паўставалі школы, прытулкі для ўбогіх, хворых і сіратаў.

З манастыра сьв. Спаса ў Полацку пачынае ад XII в. крынічыць рэлігійнае і культурнае аднаўленьне краю. Мы бачылі, што там быў сабраны не малы гурток асьвечаных манашак-князёўнаў сёстраў сьв. Еўфрасіні, якія не шкадавалі сілаў, каб ісьці верна сьледам за заснавальніцаю сьв. Спаскага манастыра. Трэба думаць, што гэткім-жа сьледам пайшоў і мужчынскі манастыр сьв. Багародзіцы.

Каб шукаць з людзкога гледзішча: ў чым быў сакрэт плоднае працы сьв. Еўфрасіні, дык трэба дагадвацца, што ён быў у своеасаблівым падыходзе да справы пашырэньня асьветы і хрысьціянства. Яна абрала шлях не змаганьня з старымі традыцыямі, як гэта рабілі чужынцы на нашых землях, але асьвячаньня ўсяго таго, што агулам хрысьціянства магло асьвяціць. Гэты падыход ясна відаць у будове царквы сьв. Спаса, у якой першы раз у гісторыі беларускае культуры была спалучана мулярская візантыйская тэхніка з тагачасным беларускім народным будаўніцтвм, пры чым гэтае народнае будаўніцтва было адухатворана і накіравана да высокіх ідэалаў. Тое самае сталася і з народным мастацтвам, якое было спалучана з іконаграфіяю. Гэткім чынам можна было лёгка ахапіць хрысьціянізацыю краю аж да найніжэйшых народных пластоў уключна і гэтым самым быў зроблены паважны крок упярод ў гісторыі беларускае культуры агулам і хрысьціянізацыі Беларусі ў асаблівасьці. Нічога тады дзіўнага, што з іменем сьв. Еўфрасіні блізка зьвязаны імёны першага беларускага дойліда Івана з Полацку і мастака Лазара Богшы — гэтыя імёны сьведчаць вымоўна, што дзейнасьць сьв. Еўфрасіні стварыла добры грунт для разьвіцьця народных талентаў.

Дабрадзейны ўплыў сьв. Еўфрасіні не абмяжоўваўся толькі рэлігійным і культурным полем, ён сьледны так-жа ў грамадзкім і дзяржаўным жыцьці. Ужо хоць-бы дзеля таго, што полацкія князі былі яе найбліжэйшаю раднёю, між князямі і сьв. Еўфрасіняю былі вельмі блізкія суадносіны, у якіх часта можна заўважыць дабрадзейны ўплыў сьвятое. Гэты ўплыў перадусім меў на мэце палагодзіць мірным спосабам усякія непаразуменьні між князямі, «бо не хацела бачыць, каб былі ў суцяжніцтве між сабою князь з князем, ці баярын з баярынам, ці просты чалавек з сваім бліжнім, але хацела, каб усе былі, як адна душа», кажа жыцьцяпісец.

Зусім канкрэтны выпадак гэтае годчае дзейнасьці сьвятое гісторыкі дабачваюць у паводзінах князя Васілька (1132-1143) супраць Усевалада Мсьціславіча, бацька якога спрычыніў тольকі няшчасьця для Полацкіх князёў. Калі Усевалад прайходзіў каля Полацку ў Пскоў, Васілько мог лёгка напасьці на яго і адпомсьціць за нядаўныя крыўды, аднак замест помсты ён вышаў насустрач Усеваладу і прыязна гасьціў яго. Відаць, што гэткая «любоўная помста» была для Усевалада больш даймаючая, як усякая іншая, крывавая, бо ў выніку гэтага спатканьня паўстала супольная прысяга не ўспамінаць таго, што было раней. Абодва князі гэтую прысягу датрымалі — рэдкае зьявішча на тыя часы. Для сьв. Еўфрасіні гэта было вялікім асягненьнем.

Сьв. Еўфрасіня была ў блізкіх адносінах ня толькі з сваімі князямі, але так-жа і з візантыйскім імпэратарам Мануілам Комнэнам, з якім вяла карэспандэнцыю ў грэцкай мове. Некаторыя гісторыкі з гэтага факту дагадваюцца зусім слушна, што яна мусіла садзейнічаць у рэлігійнай палітыцы імпэратара Мануіла, якая накіроўвалася на паеднаньне Усходняе і Заходняе Царкоў. На нашых землях тады яшчэ ня было і сьледу варожасьці між Цэрквамі, але відаць дзякуючы ўплыву сьвятое нават япіскапы грэкі ў Полацку, як, напр., Косма (1143-1156) не рабілі нічога, каб гэтую варожасьць распальваць.

Шырокае поле дзейнасьці сьв. Еўфрасіні бесьпярэчна мусіла высока падняць аўтарытэт ня толькі Полаччыны, але агулам усяе Беларусі ў вачох візантыйскага імпэратара і патрыярха, ужо ня кажучы аб суседніх княствах.

Уканцы трэба зазначыць, што побач усіх пералічаных вышэй учынкаў сьвятое, яе малітва, ахвярнасьць і самазапярэчаньне разам з падобным ўчынкамі яе супадзьвіжніцаў, вымольвалі ў Бога тую раўнавагу для бацькаўшчыны, без якое жыцьцё стае хаотычным.

Сьветлы прыклад, ахвярнае жыцьцё, рухавая дзейнасьць, шчырая малітва і бязьмежнае самазяпярэчаньне сьв. Еўфрасіні прычыніліся да прыгожага росквіту хрысьціянскіх цнотаў у нашым народзе, ушляхотнівалі пачуцьцё дабра і красы, збольшвалі рэўнасьць да спасеньня душы, лагодзілі звычаі і абычаі, уздымалі асьвету і культуру беларускага народу — таму так высока цэніць і шчыра любіць народ гэтую сваю сьвятую.

**а. Леў Гарошка.**

# Сьляды Бога ў прыродзе

Перад сусьветнаю вайною адзін францускі вучоны праязджаў праз пустыню Сахару. Праваднікам у яго быў араб. На захадзе сонца араб палажыў на зямлю кілім, укленчыў на яго і пачаў маліцца.

— Што ты робіш? — пытае вучоны.

— Малюся, — адказвае араб.

— Молішся? Да каго?

—Да Бога-Аллаха.

— Ці ты калі небудзь бачыў Бога? — сьмяяўся вучоны.

— Не!

— Ці ты дакранаўся да Яго сваімі рукамі?

— Не!

— Дык тады-ж ты глумны, калі верыш у Бога, якога ня бачыў, ня чуў, ані не дакранаўся да Яго рукамі.

Араб не адказаў нічога.

Назаўтрае рана перад усходам сонца вучоны, выходзячы з свае палаткі, заўважыў сьляды на пяску і казаў арабу:

— Тут быў вярблюд.

— Ці вы бачылі гэнага вярблюда? — сьмяяўся араб.

— Не!

— Ці вы пальцам дакраналіся да вярблюда?

— Не!

— Дык вы-ж пасьля гэтага бязглузды, калі верыце ў вярблюда, якога ня бачылі, ня чулі і не дакраналіся.

— Але-ж во я бачу, ягоныя сьляды на пяску, — апраўдваўся вучоны, паказваючы на сьляды.

У гэтым мамэнце паказаліся першыя праменьні ўсходзячага сонца і араб паказваючы на іх, казаў да вучонага:

— Дык гляньце на сьляды Створцы і зразумейце, што на сьвеце ёсьць Бог.

Гэтае здарэньне ёсьць вельмі добраю і яскраваю ілюстрацыяю да слоў сьв. Пісаньня: «Бо бязглуздыя ўсе тыя людзі, у якіх няма пазнаньня Бога; яны бачачы добрае, не змаглі зразумець самога Быцьця і разглядаючы зробленае, не пазналі Будаўнічага » (Прам. Салам. XIII, 1).

Гэты Будаўнічы сусьвету запраўды ня бачны для нашага зору і недаступны нашым змыслам, але затое Ён даступны нашаму розуму, бо як кажа ап. Павал: «Няведамае Яго, вечная Ягоная сіла і Боскасьць ад стварэньня праз разважаньне аб творах робяцца пазнавальнымі» (Рым. 1, 20).

Што яно запраўды так ёсьць, варта паслухаць думкі выдатнейшых вучоных прыродаведаў, бо іхняя веда ўпрост змушае іх быць сьледапытамі Бога ў прыродзе.

Гэніяльны францускі прыродавед К. Ліннэй (1707-1778), які першы усыстэмізаваў расьліны і жывёлы, кажа: «Вечны і ўсемагутны Бог прайшоў каля мяне. Я ня бачыў Яго ў твар, але Ягонае адлюстраваньне ахапіла маю душу. Я тут і там заўважыў Ягоныя сьляды ў Ягоных стварэньнях».

Дасьледнік прыроды, асабліва палеанталёгіі Л. Агасіс (1807-1873) кажа: «Чаму для нас прырода ня ёсьць запячатанаю кнігаю? Бо мы маем вязі, якія нас лучаць з сьветам ды ня толькі з фізычным і жывёлінным сьветам, але з самым Створцам, таму можам чытаць з кнігі сьвету і разумець, што сьвет паходзіць ад Бога».

Выдатны францускі палеанталёг Я. Баранд (1799-1883) так-жа ўрачыста заяўляў, што «яго ахоплівае подзіў задаваленьня, прызнаньне і чар, калі ўглыбляецца ў назіраньне, якое колечы часткі твораў Створцы».

Найвыдатнейшы англійскі гэалёг В. Буклянд (1784-1856) казаў: «Зямля аж да найглыбейшых сваіх фундамэнтаў прылучаецца да хору нябесных целаў, якія кружляюць у бязьмежных нябесных прасторах, каб галасіць славу Богу, Які іх стварыў».

Гэніяльны батанік А. Кандоль (1778-1814) казаў: «Агульны пагляд на батаніку ўздыймае душу, пабольшвае яе; ці мы назіраем за яе суцэльнасьцю, ці за дробнымі часткамі — душа напаўняецца падзівам і пашанаю да Таго, Чыя рука арганізавала расьліны».

Выдатны амэрыканскі гэалёг Дж. Дана (1813-1895) так-жа аддае «пашану Богу, Які ўсё кіруе да свае мэты і канца і пад Якога кіраўніцтвам Зямля прайходзіць сваю гісторыю».

Асновапаложнік эвалюцыйнае тэорыі, шыроковедамы Ч. Дарвін (1809-1882) насупраць усякіх стараньняў бязбожнікаў выкарыстаць ягонае імя і тэорыю, як аружжа для бязбожжа, сам быў веруючым і ў сваім творы аб «Паходжаньні відаў» пісаў: «Ёсьць штосьці ўзьнёслае ў разважаньні жыцьця з яго рознымі сіламі, якія першапачаткава былі ўдзьмухнены Створцам можа толькі нямногім формам, або нават толькі адной адзінай».

Веруючых прыродаведаў ёсьць шмат і ў гэтым кароткім артыкуле нельга ня толькі пералічыць думкі ўсіх, хоць-бы толькі выдатнейшых з іх, таму абмяжуемся толькі некаторымі з іх, як прыкладамі. Аднак для нас важна ведаць, ці сучасны аграмадны поступ прыродазнаўства спрыяе ўмацаваньню веры, ці яе аслабляе?

Найлепш будзе, калі ў гэтай справе даведаемся думкі найбольшых сучасных волатаў прыродазнаўчых навук.

Англійскі астраном і фізік Д. Джынс (нар. 1877) у творы фізыка сусьвету піша: «На аснове сучасных асягненьняў навукі сьцьверджана,што атамы нішчацца; адгэтуль выцякае, што яны мусілі калісьці паўстаць. Калісьці павінна было адбыцца здарэньне, або рад здарэньняў, або пастаянны працэс паўставаньня матэрыі». Значыць мусіў быць пачатак сьвету. Хто мог даць гэты пачатак сьвету, Джынс адказвае: «Калі хочаце мець канкрэтны вобраз, дык можна ўявіць сабе палец Бога, выклікаючы дрыжаньне этэру».

Выдатны нямецкі фазык і асноўнік тэорыі квантаў Макс Плянк (1858-1947) кажа: «Калі хто

запраўды спрычыніўся да разбудовы якое колечы навукі, той ведае з уласнага нутранага дасьледу, што на ўваходных варотах да навукі стаіць вонкава нябачны, але зусім неабходны дарогаўказ: наперад бачучая вера».

Выдатны амэрыканскі фізык Дж. Томсон, і слаўны дасьледнік атамаў Эрн. Рутэрфорд (1871-1937) былі так-жа глыбока рэлігійнымі і аб сваіх пераканаяньнях няраз заяўлялі пры розных нагодах.

Хто хоць крыху знаёмы з навейшымі навуковымі асягненьнямі ў галіне прыродазнаўства, той бяз цяжкасьці можа сьцьвердзіць, што кожны новы крок ў навуцы, што раз ясьней выкрывае Божыя сьляды ў прыродзе. Зусім нядаўна бэльгійскі вучоны прафэсар Лювэнскага унівэрсытэту а. Лемэтр устанавіў, што касмічныя туманнасьці разыходзяцца ў прасторы з хуткасьцю 100 км. на сэкунду. Значыць сучасны матэрыяльны сусьвет штохвіліны пабольшваецца ў сваім абыйме зьмяншаючыся ў гусьціні, але адначасна гэта паказвае, што якіх 200 мільярдаў год таму ўся матэрыя сусьвету мусіла быць сканцэнтравана на прасторы некалькіх кубічных мілімэтраў, а гэта ў сваю чаргу азначае, што матэрыя ўзяла свой пачатак ад нематэрыяльнае Першапрычыны.

Гэты факт з усёю навуковаю дакладнасьцю сьцьвярджаецца пры разьбіцьці атаму. Досьледамі сьцьверджана, што разьбіўшы атам ад матэрыі не астаецца нічога — яна пераўтвараецца ў нематэрыяльную энэргію. Разьбіўшы атам, тым самым вучоныя разьбілі ў пух навучны матэрыялізм, які асноўваўся на вечнасьці і нязьнішчальнасьці матэрыі. Тое, што матэрыя замяняецца ў энэргію падчас разьбіцьця атаму для матэрыялізму мала пацяшаючы факт, бо калі-б гэтую выладаваную энэргію нехта захацеў зноў перетварыць у матэрыю, дык дзеля гэтага мусіў-бы затраціць дадаткова шмат энэргіі на сам працэс пераўтварэньня. Аднак гэты працэс калісьці мусіў адбывацца і была такая Усемагутная сіла, якая мела энэргію патрэбную да творчага акту.

І на ўсім сьвеце гэтая матэрыя аднолькавая і паслухмяная тым самым законам. Гэта даводзіць вучоных да непахіснага пераканаяньня, што адзін і той самы Майстар збудаваў увесь сусьвет, паводля аднаго пляну і з тых самых «цэглаў» і Ён кіруе сусьветам сваімі законамі агульна ведамымі пад назовам прыродных законаў. Толькі ў выняткловых выпадках і дзеля асаблівых прычын Ён робіць выняткі ад гэтых законаў і тады гаворым аб цудах. Гэта здараецца тады, калі сам Бог нешта абʼяўляе людзям і дае доказы боскага паходжаньня гэтага абʼяўленьня, а так-жа ў некаторых выпадках для ўмацаваньня веры.

Таму апошнім часам можна часьцей пачуць думкі выказаныя калісь выдатным італьянскім гэалёгам а. Ант. Стоппані (1824-1891): «Розум чалавека і абʼяўленьне Бога імкнуцца да тае самае мэты, вядуць да тае самае праўды. Не паважна робяць тыя, якія хочуць паставіць мур між тым, у што вераць і тым, што знаюць, бо яны хочуць расьцярушыць праменьні сьвету, якія хоць і рознымі шляхамі, але паходзяць ад таго самага сьветача».

У няжывой прыродзе Божымі сьлядамі могуць быць усе прыродныя законы, мэтазгоднасьць, гармонія — у жывой прыродзе найвыразьней выступаюць гэтыя сьляды ў розных паводзінах неразумных істотаў у тых актах, якія называюцца інстынктамі. Шматлікія з гэтых інстынктаў настолькі «мудрыя», што чалавек, не зважаючы на ўсю сваю вялікую мудрасьць і дослед, ня можа з імі зраўняцца.

Калісьці францускі вучоны Рэамюр страціў нямала часу на аблічэньне, у якіх сотах пры найменшым абыйме можна зьмясьціць найбольш мёду. З гэтых аблічэньняў выходзіла, што пчолы для большае ашчаднасьці мейсца, мусілі-б крышку палепшыць свае вашчыны. Аднак калі пасьля ўстаноўлена і ўдасканалена лёгарытмічныя табліцы і паўторана аблічэньне Рэамюры, дык выявілася, што пчаліная вашчына так дасканала збудаваная, што там непатрэбная нават найменшая папраўка. Значыць ня пчолы памыляліся, але памыліўся вучоны ў сваіх аблічэньнях. Відаць Нехта замянае пчолам і матэматычныя аблічэньні і лёгарытмічныя табліцы.

Доўга сьлядзілі вучоныя за вуграмі, як яны ў рэках і азёрах Эўропы і Амэрыкі дарастаюць да веку нераставаньня і тады з усіх усюдых плывуць у Атлянтычны акіян на паўдня ад абтоку Бэрмунд, там нерастуюць і гінуць, а маладыя ніцепадобныя вывадкі-вугры разыходзяцца адтуль у салодкія воды рэк і азёраў Эўропы і Амэрыкі — эўрапэйскія да сябе, а амэрыканскія да сябе. І хто ёсьць іхным правадніком, што яны ніколі ня зблудзяць?

Тое самае і пералётныя птушкі — і старыя і маладыя вывадкі аднолькава пэўна лётаюць па далёкіх шляхох і ніколі не памыляюцца, ці ня сорамна чалавеку перад імі, што нават на ўежджаных дарогах блудзіць.

Ёсьць у Эўропе парода восваў, якіх завуць сфэксамі. Саміца сфэксаў можа заткнуць за пояс любога хірурга; яна так дакладна ўмее джыгаліць жукоў клеонаў, што трапляе ім у цэнтр невялічкага нэрвовага вузла, тым самым паралiжуе іх і складае там свае яечкі, з якіх хутка выводзяцца рабачкі, якія кормяцца целам клеонаў.

Доўгі час было загадкаю, як кажаны могуць так спрытна лятаць нават з выкалатымі вачыма паміж розных сетак і розных перашкодаў з тонкіх нітак і абмінаць іх нават не чапаючыся за іх. Толькі ў 1945 г. выкрылі, што кажаны маюць у вушах органы для адчуваньня ультра кароткіх

хваляў, дзякуючы якім, абмінаюць перашкоды. Аб гэтых хвалях вучоныя даведаліся толькі нядаўна і запраўды завідавалі кажаном, што яны спакон вякоў карысталіся гэтымі хвалямі з вялікай карысьцю і спрытам, дык ці-ж не адвечная Мудрасьць так іх абдарыла? Пры гэтай нагодзе так і ўспамінаюцца словы аднаго з найбольшых гэніяў навукі Іс. Ньютона, які назіраючы людзкія органы, пытаўся: «Ці магло быць утворана вока без знаньня оптыкі, або вуха бяз знаньня законаў гуку?»

Сёньня мала дзе сустракаюцца бабры, але калісь часта людзі маглі аглядаць цэлыя пасёлкі баброў з іхнымі мастацка зробленымі хатамі, іхныя гаці на вадзе збудаваныя паводля безнаганнае тэхнікі, але бабры ніякіх тэхнічных школаў не канчалі і ў інжынераў мудрасьці не пазычалі, дык адкуль-жа ў іх тэхнічная веда?

І такім спосабам, уважней прыглянуўшыся, мы знойдзем амаль у кожнае жывёлы сотні і тысячы розных звычаяў, якія ў сваёй мэтазгоднасьці могуць у шмат чым навучыць разумнага чалавека, хоць самі жывёлы ніякага розуму ня маюць. Усе гэткія «мудрыя» жывёлінныя паводзіны ў навуцы агульна прынята называць інстынктамі. Але калі-б дасьледаваць, што крыецца за гэтым словам, дык з усіх паясьненьняў найбольш прыгожай будзе думка выдатнага прыродаведа Альтума, паводля якога інстынкт «зьяўляецца актам послуху жывёлы вышэйшай праўлячай Руцэ, іманэнтнаму закону». Іншымі словамі, але больш выразна казаў гэніяльны дасьледнік прыроды Іван Мюльлер: «Інстынктыўныя дзеяньні паказваюць нам, што сіла дзеючая згодна з вечнымі законамі для азначанае мэты гэта ёсьць Боскае думаньне, не супадаючае з нашаю сьведамасьцю».

Вялікае шчасьце для людзей, калі яны аднайходзяць на зямлі сьляды Валадара сусьвету і шчыра йдуць туды, куды гэтыя сьляды вядуць, але вялікае гора тым людзям, якія стараюцца заблытваць гэтыя сьляды, каб зьвесьці людзей на блудныя шляхі.

**Сьвятар Л.**

# Патрэба школаў

Часам у некаторых газэтах можна стрэнуць заценкі адносна амэрыканскіх каталікоў, у якіх аўтары дзіву даюцца, што амэрыканскія афіцэрыкаталікі, не зважаючы на свае высокія становішчы, ёсьць вельмі простыя ў сваёй веры. Яны разам з сваімі жаўнерамі прыступаюць да сьв. Прычасьця і робяць гэта даволі часта; абавязкава наведваюць Службу Божую, цікавяцца царкоўнымі справамі, займаюцца дабрадзейнаю акцыяю, а нават і місыйнаю працаю.

Гэткія паводзіны афіцэраў-каталікоў для эўрапэйцаў тым цікавейшыя, што ня ўсе амэрыканцы такія. Разьвязку гэтае тайны лёгка знайсьці, калі прыглянуцца ўважней да жыцьця амэрыканцаў. У Амэрыцы веруючыя каталікі ўзгадоўваюцца ў каталіцкіх школах. Пачынаючы ад дзіцячых садкоў і канчаючы на ўнівэрсытэтах — гэта адзін вялікі ўзгадаваўчы інстытут, вынікам працы якога і ёсьць цэлы рад жыва веруючых хрысьціян, якія прыкладам свайго хрысьціянскага жыцьця сьвецяць культурнай Эўропе.

Трэба падчыркнуць, што між Эўропаю і Амэрыкаю ёсьць вялікая розьніца ў навучаньні і ўзгадаваньні моладзі. У Эўропе да гэтага часу рэлігію навучалі больш урадава, фармальна; калі сьвятар — настаўнік рэлігіі браў за навуку дзяржаўную плату. Навука рэлігіі адбывалася толькі ў пачатковых школах і гімназіях. Унівэрсытэцкая моладзь — студэнты ня мелі сыстэматычнага навучаньня рэлігіі. Вынік гэткага стану рэчаў вельмі сумны: З навуковага гледзішча студэнты вырасталі на вучоных, а з рэлігійнага гледзішча аставаліся дзяцьмі, забыўшыся з часам нават і тыя праўды малога катэхізму, завучаныя ў пачаткавай школе. Таму нічога дзіўнага, што яны або зусім пераставалі верыць, або верылі толькі дзеля звычаю.

Зусім інакш маецца справа ў Амэрыцы. Там уся каталіцкая моладзь абнята навучаньнем рэлігіі, бо ў каталіцкіх школах выкладаюць усе прадметы ў каталіцкім духу, і гэта ня толькі ў ніжэйшых школах, але і на ўнівэрсытэтах. Каталіцкія поўунівэрсытэты — каледжы і унівэрсытэты тут ня рэдкасьць. У ЗША нарахоўваецца каля дзясятка поўнапраўных каталіцкіх унівэрсытэтаў і цэлыя сотні каледжаў — усё гэта кузьні ўзгадаваньня моладзі і таму ў душах іхных узгадаванкаў жыве дух Хрыста-Збаўцы.

Варта заценіць, што ўсе гэтыя школы ўтрымоўваюцца прыватнымі складкамі, ахвярамі і платнёю вучняў; таму гэты дух ахвярнасьці Бог шчодра багаславіць і спамагае развой гэтых узгадаваўчых інстытуцыяў.

«Дзе-ж нам раўняцца да багатае Амэрыкі», падумае неадзін, чытаючы гэтыя радкі. На гэта трэба сказаць, што нават найменшы ўклад ў справу асьветы і ўзгадаваньня чалавека пакідае па сабе незацёрты сьлед, зьяўляецца маленькаю цаглінкаю ў будове характару, ды сьцягае кропельку Божае ласкі на ўзгадаванца і на ўзгадаваўцу. Няхай нехта заложыць рэлігійную школу нават для траіх дзяцей, дык ужо гэтая праца будзе карыснай і можа быць чудова плоднаю. Калі Хрыстос у асобе добрага Пастыра шукае аднае заблуканае авечкі, пакінуўшы 99, дык чаму-ж мы ня маем ратаваць маладых адзінак, якія могуць

стацца добрымі пастырамі для мільёнаў? Вартасьць душы перад Богам бясцэнная, а ў школе гэтую душу даглядаецца быццам далікатную кветку, каб захаваць яе перад марозам сапсуцьця.

Калі бацькі пабожныя, дык ад іх дзеці атрымоўваюць першую навуку аб Богу і рэлігіі. Звычайна гэтую навуку дзеці ўспрыймаюць шчырым сэрцам, бо для іх бацькі ёсьць найбольшым аўтарытэтам. Але ці кожны, нават пабожны бацька ў стане выясьніць яксьлед усе рэлігійныя праўды?! Бясспрэчна ня ўсе. Да гэтага пакліканы настаўнікі, якія маюць адпаведную асьвету, выпрабаваныя мэтады навучаньня і адпаведна апрацаваную праграму. Яны прыводзяць вучняў да пазнаньня жарала ўсяго быцьця-жыцьця — Бога, як да найвышэйшага аўтарытэту і тымсамым выпускаюць у сьвет умацаваных вернікаў, якія шчыра бяруцца да працы, стаюцца апосталамі праўды і пацягаюць за сабою іншых да хрысьціянскіх ідэалаў.

Ратуйма душы для Бога праз асьвету, узгадаваньне дзяцей у рэлігійных школах; гэткім чынам прыспорым народу карысных сыноў і дачок. Ад добра наладжанага школьніцтва залежыць дачасная і вечная будучыня народу. **а. П.**

# Каталіцкая Царква ў ЗША

У зьвязку з папярэднім артыкулам чытачом не бяз цікавасьці будзе даведацца некаторыя лікавыя даныя аб Каталіцкай Царкве ў ЗША. Падаём іх з найнавейшае «Каталіцкае Дырэкторыі» з 1949 г.

Агульны лік каталікоў у ЗША на 1949 г. быў — 26.718.343 чалавекі. Ерархія складалася з: 4-х кардыналаў, 20 архібіскупаў і 157 біскупаў, у тым 2-х усходня-слав. абраду і 1 грэцкага абраду; 42,334 сьвятары, 7,202 манахаў-братоў, 141,606 манашак.

Каталіцкае школьніцтва: унівэрсытэты і калежы займалі 228 будынкаў, а ў іх атрымоўвала навуку 240,048 юнакоў; сярэдняе школьніцтва мела 2,385 інстытуцыяў і 508,724 вучняў; пачаткавае школьніцтва абымала 2,435,250 дзяцей у 8,318 школах. Значыць агулам каталіцкае школьніцтва ў ЗША абымала 3,184,022 вучняў.

У каталіцкіх шпіталях знаходзілася каля 4-х з палавінаю мільёнаў хворых.

# ТЫ І ЯНА

(Працяг 6-ы).

## РАЗЬДЗЕЛ 5.

### Недасьпелае каханьне.

Калі пэрыяд разьвіцьця маладога чалавека праходзіць нармальна і здаровымі шляхамі, тады ў ім нават не адзываецца патрэба навязваньня бліжэйшых адносінаў з дзяўчынай. Гэта для яго ёсьць нешта такое, што яго зусім ня цікавіць. Апрача таго ён чуў ад сваіх бацькоў і ад сваіх душпастыраў, што гэта ў ягоным веку «не на мейсцы». І гэтага яму даволі, каб згасіць першыя пажадлівыя мроі, тымбольш, што ягоныя заняткі і абавязкі не пакідаюць шмат часу. Да таго сумленныя бацькі глядзяць за сваімі дачушкамі і толькі ў іхняй прысутнасьці могуць адбывацца спатканьні з іншымі асобамі. Бяз сумліву было-б багаславенствам, калі-б усюды княжылі падобныя звычаі. Нажаль сёньняшнія часы зусім іх занядбалі.

Нездаровая і перадчасная сьпеласьць спрычыняе перадчасную юрлівасьць плоцьнага гону. Гутаркі, прыклад іншых, зараза кіна, тэатр і ўсялякага роду разрыўкі, чытаньне немаральных раманаў, танцы і агулам дух часу скіраваны на расьпяразанасьць, выклікаюць у маладога хлапца думкі, да каторых сам ніколі-б не дайшоў.

Найгоршым уплывам кіна ёсьць тое, што моладзь можа ў ім пабачыць, як гэта брацца за падобныя знаёмствы. Пасьля чаго яны насьледуюць толькі тое, што бачылася.

Такім чынам штучна пабуджаецца гон і расьце смага пакаштаваць юнацке любові. Не адзін жадае пазнаёміцца з дзяўчынай толькі дзякуючы інстынкту насьледаваньня, бо думае, што гэтак выпадае запраўднаму маладому мужчыне; ня хоча астацца ззаду за іншымі... Потым хваліцца, калі яму ўдалося ў падлётку-дзяўчаці абудзіць да сябе «зацікаўленьне».

Цяпер з поўным супакоем разглянем прычыны, дзеля якіх пад ніякімі ўмовамі нельга пазволіць на перадчаснае залётнае знаёмства з дзяўчынай. Каб ня было непаразуменьня, перш-наперш трэба зрабіць наступную заўвагу. Можа здарыцца, што між запрыязьненых сем'яў знойдзецца двое людзей так сабе дабраных, што будучае іхняе сужэнства выглядае толькі справаю часу. Яны прынагодна спатыкаюцца і сабе ўзаемна падабаюцца і прыдзе час, калі напэўна ажэняцца. Бяз сумніву гэткаму знаёмству ня толькі ня можна працівіцца, ці рабіць закіды, але падобныя абставіны для іх ёсьць вялікай карысьцю.

У далейшым маю на воку тыя залёты і каханьні, што нажаль вельмі часта маюць мейсца сярод моладзі, якая ледзь зьлезла са школьнае

лаўкі, або толькі распачала вышэйшыя студыі, — або агулам ёсьць у гадох, калі для іх сужэнства яшчэ вельмі далёка і ў гэткім стане завязвае знаёмства дзеля таго, каб загадзя пазнаць прыемнасьць сантымэнтальных адносінаў.

Перадусім, колькі-ж гэта траціцца дарагога часу і марнуецца найлепшых сілаў праз гэтыя чульлівыя уздыханьні і пустыя гутаркі! Такі малакасос затрачвае сотні гадзінаў заграмаднай крыўдай для ўласнае адукацыі і вучобы! Пачуцьці, каторымі ён усьцяж заняты, паглынаюць ягоныя думкі, зьядаюць волю і ён ня мае ані часу, ані сілы адрабіць свае абавязковыя заняткі. Не адзін вучань толькі дзеля гэтага не атрымоўвае належнага пасьведчаньня пераходу ў вышэйшую клясу. З усякім імкненьнем ёсьць гэтак, што яно быццам бярэ ў палон думкі і волю чалавека, пры чым усе іншыя зацікаўленьні адходзяць на бок. Калі тое, да чаго імкнецца, не асягне, ня будзе мець супакою. Дзеля таго ёсьць бязглузьдзем і ненатуральнасьцю лятуцець за нечым — можа нават і цэлымі гадамі — ня маючы пры тым ані магчымасьці, ані волі, каб асягнуць канчатковую мэту гэтых лятуценьняў. Пэўне-ж неадзін сябе і другіх угаварвае, што жадае ў будучыні сужэнства, але гэта амаль заўсёды ёсьць самаашуканствам. Праўдай ёсьць тое, што мілы тварык, ці іншыя вонкавыя прынады, так іх заблыталі ў сільё, што ня могуць з іх вызваліцца. Драбніцы могуць прыкончыць падобныя знаёмствы, а да таго абое яшчэ за маладыя, каб належна ацаніць значэньне падобнага выбару і ягоныя наступствы. Тут перадусім павінны быць меркаю нутраныя вартасьці, а ня змысловы пацяг. Жыццёвае дасьведчаньне кажа, што з так званых «студэнцкіх каханьняў» ані нават адно на сто не даводзіць да сужэнства.

Выпрацаваньне характару так-жа спатыкае шмат перашкодаў дзеля нясьпелага каханьня. Такі малакасос зусім ня лічыцца з тым, чаго ад яго вымагаюць права і абавязак, але брыдзе насьлепа туды, куды яго накіроўвае нахіл, не зважаючы на голас розуму і сумленьня. Праз нядбаласьць ён пазбаўляе сябе найважнейшага дапаможніка, які прычыняецца да выпрацаваньня бадзёрай, моцнай і самастойнай мужчынскасьці — апанаваньне і перамога самога сябе. Ён марнуе найлепшыя нагоды да ўзмацненьня нутранай сілы і вольнасьці. Усе настроі, пляны і лятуценьні існуюць акурат дзеля таго, каб чалавек навучыўся імі валодаць. Замест таго, каб быць іх нявольнікам, чалавек павінен стацца іх валадаром і гэта моцай свайго духу. Калі нехта дазволіць сабе заблытацца ў нейкае нясьпелае каханьне, адразу ім пачынаюць кіраваць пажаданьні ніжэйшае катэгорыі. Аблытаны імі, натужвае свой розум толькі ў тым кірунку, каб ім дагадзіць. Тады зыходзяць на бок усе вышэйшыя, праўдзівыя і найбольш асабістыя інтарэсы. Такім чынам ніколі ня будзе самастойным характарам той, хто ня зможа запрэгчы плоцьнага гону да свайго жыцьцёвага пляну, але сам дасца кіраваць гонам, а гэтыя, як той дэспат, — усіх фармуюць на аднолькавы капыл.

Гэтым самым шуканьне і завязваньне нясьпелага каханьня ёсьць азнакаю чалавека «нізкага маральнага палёту». Першы ўзрух плоцьнага гону кладзе гэткага дарастаючага мужчыну на абедзьве лапаткі. Ледзь той гон паказаў сябе, а ўжо яму такі гэрой паддаўся і бяз ніякага супраціву дазваляе ўзьдзець на сябе ягоныя кандалы.

Запраўды жалка глядзець на тых, што ў сваіх уласных вачох выдаюцца вялікімі дзеля таго, што пачуўшы подых мужчынскага інстынкту, лічаць найпільнейшым заданьнем свайго жыцьця поўнасьцю яму паддацца. Розум, скінуты са свайго людзкога пасаду, ідзе на ўступкі плоцьнага гону. Усе хаценьні таго гону для такога падрастаючага нявольніка становяцца загадам і знаходзяць у ім дабравольны і бязузглядны послух. Усё, што думае і што робіць такі нявольнік, ужо ня ёсьць вынікам яго «я», але таго сьляпога гону і носіць на сабе сьляды таго-ж гону. Бо ў запраўднасьці гэтаму нешчасьліваму чалавеку ня ёсьць важным, ці ён калісь саўе сямейнае гняздо, знайшоўшы сяброўку жыцьця; ён шукае выключна задаваленьня плоцьнага гону для свае прыемнасьці — не зьвяртаючы ўвагі на мэты і правы ўстаноўленыя Створцам.

Гэта акурат ёсьць супраць натуры, ёсьць чымсьці самым у сабе несправядлівым і дзеля гэтага забароненым. Пры гэтым уся псыхалёгія маладога юнака знаходзіцца быццам у атмасфэры сапсутага паветра. У нармальных абставінах нахіл двух сэрцаў павінен прывесьці ў кароткім часе да сужэнства. Кожнаму, хто азнаёмлены з жыцьцём, ведама, што закаханыя спачатку бываюць проста вывіхнутыя з духовай раўнавагі. Слушна гаворыцца аб вар'яцтве каханьня, якое агортвае абох. Толькі па нейкім часе, паволі яны прыходзяць да сябе. І калі малады чалавек гоніцца за гэткім хмелем усёю сваею істотаю, каб пережыць прыемнасьці каханьня, гэтым самым змушае сябе быць усьцяж у ненармальным стане. Дзеля таго аднак, што гэты стан панявол і ўплывае на развой плоцьнага нэрвовага строю, які ў юнака знайходзіцца ў стадыі фармаваньня, а тым самым і на насенныя залозкі, дык мусовым наступствам гэтага ёсьць трывалы, нездаровы, хварабліва раздражнены стан тэтых залозкаў, што спрычыняецца да шматілкіх гвалтоўных спакусаў.

Такім чынам усё ягонае думаньне стаецца прасякнутым сэксуальнымі вобразамі і няма там ані мейсца, ані часу, ані зразуменьня для вышэйшых рэчаў. Гэта перашкаджае дайсьці да духо-

вага дасьпяваньня; узровень думак астаецца нізкі, разважаньне плыткае і нярэдка прыходзіць лёгкадумства аднósна духовых вартасьцяў. Такая адзінка становіцца малавартаснай ува ўсіх галінах.

Тут знайходзіцца яшчэ небясьпека іншага роду, у якую трапляе малады чалавек. Закаханы ня хоча быць горшым ад другіх; ён лічыць сваім абавязкам несьці розныя ахвяры для «выбранае свайго сэрца», купляць ёй падарункі. На гэта аднак не дазваляе ягоная пустая кішэня. Тады распачынаюцца зладзействы і абман, якія ўдаецца хаваць толькі да пэўнага часу. Пасьля для бацькоў тут адчыняецца крыніца суму і прыгнобленьня. Неадзін тады траціць заработак і пасаду, стаецца безработным і пачынае валацужнае жыцьцё — пачатак усяляка праступства.

Але мы яшчэ ня ўспомнілі аб найбольшай небясьпецы, якая часта йдзе неадлучна з перадчасным каханьнем. Ці-ж запраўды ўсё канчаецца, як мы дагэтуль дапускалі, толькі самым фліртам, уздыханьнем і чульлівасьцю? Магчыма, што каханьне ня выходзіць за межы пэўнага рамантызму, пакуль розныя абставіны не дапускаюць на большае зьбліжэньне. Але хай толькі абставіны зьменяцца, адразу дайходзіць да большае зажыласьці, а вынікі гэтага стаюцца вельмі небясьпечныя.

Звычайна юнацкае каханьне не праходзіць так нявінна, як гэта магло-б здавацца. Бо нахіл да асобы іншае плоці па сваёй сутнасьці мае ў сабе той неспакой, каторы можа быць задаволены ня інакш, як толькі ў акце сужэнскага самааддданьня. Гэта ёсьць істотная розьніца паміж нахілам да асобы іншай плоці і паміж усякай іншай любоўю ці прыязьню. Праўда кожная любоў імкнецца да нейкае злукі. Бачымо гэта ў маці, тулячай да сябе дзіцятка; у прыяцялёў, што кідаюцца сабе ў абыймы. Але ім гэтага дастаткова, прытым яны не адчуваюць ніякага цялеснага закалоту, каторы будзіцца адразу, калі толькі прыбліжаюцца да сябе асобы іншае плоці.

Бяз сумніву напачатку, калі адкінем грэшныя намеры, астаецца толькі духовы нахіл. Адзін другога кахае, ўзаемна разумеюцца і прыемна ім быць разам. Іх сэрцы напоўненыя радасным адчуваньнем, каторае неканешне павінна мець у сабе нешта сэксуальнае. Гутараць, адкрываюць адно перад другім тайны свае душы, свае пляны і пажаданьні. Такому нахілу зусім свойска, каб ён праявіўся ў вонкавых знаках. Пачынаюцца пяшчоты, цалункі абыймы. Гэтае фізычнае зьбліжэньне, а так-жа ўвесь той сьвет думак будзіць (і то неабходна) натуральныя плоцьныя тоны. Памятайма, што ўпадабаньне і каханьне ня ёсьць нічым іншым, як часткай плоцьнага гону і што абодва гэтыя дзейнікі вельмі на сябе ўплываюць, так што калі разбудзіцца адзін з іх, канешне павінен выклікаць абуджэньне другога.

(Далей будзе).

Паводля кніжкі Шільгэна «Du und Sie»
апрацаваў **Васіль Друя**.

# „Мая хата з краю“

У чым як у чым, але ў адным Астап быў заўсёды згодны з сваею Палусяю, што ня варта мяшацца ў ніякія грамадзкія і хоць крыху небясьпечныя справы. «Мая хата з краю, — нічога ня знаю», адмаўляўся ён, калі зьбіралі дэклярацыі на родную школу, тое самае паўтараў, калі прабавалі судзіцца з панам за сэрвітут, тое-ж казаў, калі арганізавалі выбары ў самаўрад. Нават як на калодзезь зьбіралі грошы, дык адмаўляўся ўсімі спосабамі, каб даць якнайменш. Калі штонебудзь рабілі гуртам, дык Астап заўсёды круціў на ўсе лады, каб быць там якнайменш і потым дзякаваў Богу, калі яму гэткае круцельства ўдавалася.

— І без мяне зробяць, дурняў на сьвеце хапае, — казаў ён сам сабе і сьмяяўся ў кулак, калі мог карыстацца дарма чужою працаю.

Але відаць, што нарэшце ня толькі ў людзей, але і ў Бога вычарпалася цярпеньне патураць спакойна гэтаму круцельству і аднаго дня зачалі сыпацца на Астапа з усіх бакоў, як з мяшка розныя неспадзеванкі.

Аднойчы раніцаю, калі Астап пачуў, што арыштавалі Данілу, які найбольш стараўся аб роднай школе ды арганізаваў нейкія гурткі, і што ягоная жонка цяпер ходзіць разам з дзясятнікам па вёсцы з нейкаю паперкаю і зьбірае падпісы, дык паводля свайго звычаю схаваўся ў каморку, а Палуся старалася чымхутчей выправіць гэтых няпрошаных госьцяў з хаты.

— Няма дзядзькі Астапа, дык вы падпішэце, налягаў на Палусю дзясятнік.

— Дык я-ж няграматная, адмаўлялася яна.

— Вот крыжык пастаўце, гэта будзе ўсёроўна, што подпіс.

— Крыжык, хай Бог крые! усёроўна як па пакойніку.

— Якое па пакойніку? Во гляньце, колькі ўжо так падпісаліся.

— Ой, нябож, нічога я не разумею ў гэтым.

— Што-ж тут не разумець? Тут чалавека трэба ратаваць, якога нявінна арыштавалі.

— Вот як прыдзе гаспадар, дык з ім і гаварыце, а я тут ні пры чым.

— А хіба вы самі ня можаце памагчы ў бядзе іншым?

— Я табе сказала, што я ў гэтых тваіх паперках не разьбіраюся.

— Цётка, цётка, і вы пад Богам жывяце. Ці вы думаеце, што вам ня прыдзецца ў людзей шукаць помачы? Вы казалі, што Астапа дома няма, а гэта-ж яшчэ воз на прыгумені стаіць.

— Воз? дык гэта яшчэ рана выкацілі...

Дзясятнік з Даніліхаю бачылі, што няма тут чаго больш апраўдацца і слухаць, дык пайшлі далей. Як толькі за імі зачыніліся дзьверы, Астап выйшаў з каморкі.

— Што яны тут так доўга разводзіліся?

—Прычапіліся, як слата, і ані рады; налягалі, каб я падпісалася.

— Знайшліся разумныя. Падстаўляй за каго галаву. Хай сам сваю пільнуе. Ну, а цяпер зьбірайся барджджэй, паедзем сенаваць, бо яшчэ гагова якая іншая бяда нарвацца, а там ужо дзеці можа копы параспускалі.

Толькі Астап падышоў адчыняць браму, каб выяжджаць, як суседава нявестка падбегла да яго, задыхаўшыся.

— А дзядзюшка, а родненькі, памажэце карову ратаваць. Угразла за селішчам і няма нікога, каб хто памог выцягнуць.

— А-а-а гэта такая справа, што памагчы трэба, але-ж як на тое сёньня вонь усё сена на Замошы параспускалі і трэба сьпяшацца туды... Ты заскоч, нябога, да Габрусёвых хлопцаў, яны ўжо з касавіцаю падхадзіліся і здаецца сёньня дома...

Нічога ня кажучы больш, суседка пабегла далей шукаць людзей, а Палуся ёй у сьлед прыгаворвала:

— Бачыш, цяпер дык і Астапа ўбачыла, а то дык... і сама не знайшла, чым яе папікнуць.

Астап тымчасам нэрвова круціў папяросу, стоячы каля возу і мармытаў сабе пад нос:

— Ад самага раньня спакою не даюць, што гэта за ліха гэткае...

— Што ты там мармычаш? — ня выцерпела Палуся. — Вось едзьмо барджджэй, а то й ня выберамся да вечера.

— Дык дай-жа закурыць. Нейкія запалкі ліха ведае што, ужо каторую зьвёў дарма.

Калі яны нарэшце былі за вёскаю, Астап раптам прыпомніў, што ня ўзяў з сабою дошчак, каб пераехаць праз роў. Да ўчарашняга дня там ляжалі суседавы дошкі, але ўчора сусед там кончыў сенаваць і забраў свае дошкі. Каб не вяртацца дамоў, Астап паехаў праз балотную дарогу ў аб'езд. Праўды Астап ведаў, што там была гразёта, але Палуся казала:

— Нябось вось іншыя едуць сюдэю і ня грэзнуць.

— У іншых коні іншыя, а наша завала, абы чуць дык і ляжа, але можа за гэты час там падсохла дык неяк пераедзем.

Але паказалася, што балота яшчэ было даволі гразкае для іхняга каня і калі яны стараліся завярнуць назад, дык конь зусім уграз.

— Вось бяда, і ні душы навокал! — чухаючы патыліцу, казаў Астап. Ён хутка распрог каня і пачаў яго сьцёбаць, той выскачыўшы з аднаго мейсца ўцялюжыўся ў горшую гразь і запраўды заграз.

— Пабягай, пакліч каго небудзь, казаў Астап да Палусі, бо адны тут не дамо рады. Вонь бачыш, каля Селішча нехта ходзіць.

— Гэта-ж суседкава нявестка з дочкаю мыюць сваю карову, а каля іх мусіць мужчыны, што ім памагалі.

— Ну дык хоць іх пакліч.

— Калі-ж бо няма ведама, як іх клікаць.

— Языком! Ня ведаеш як? Пакуль тут будзеш бо-каць ды як-аць, дык і конь захлынецца, — крычаў ужо ў злосьці Астап.

Спрачацца запраўды ня было калі і Палуся сама гразнучы чуць не па пояс накіравалася праз балота на Селішча, каб дагнаць памагатых, якія нядаўна выцягнулі карову суседкі. «Куравыя вочы дыму не баяцца», падбадзёрвала сябе Палуся, заклікаючы памагатых. Між імі быў дзясятнік і той ня вытрымаў, каб ня ўспомніць ранейшняга здарэньня.

— А што цётка, ці не казаў вам нядаўна, што мы ўсе пад Богам ходзім? Вось бачыце, як хутка давялося вам прасіць помачы ў іншых.

— А хіба я што казала... — але далейшую гутарку пераваў сват суседкі.

— Хіба вы падурнелі на старасьць, каб перціся ў гэтае багна з сваім канём. Гэта-ж праз роў і бліжэй і выгадней.

— Дык-бо дошчак забыліся.

— Прывыклі на чужынку жыць, дык і забыліся, — казаў дзясятнік.

Дакоры сыпаліся на Палусю так, што яна йшла ўнурыўшыся з боку, каб не глядзець людзям у вочы.

Каня выцягнулі хутка, але як толькі пачалі выцягаць воз, нехта заўважыў, што над вёскаю пачаў клубіцца нейкі вялікі дым.

— Мужчыны, пагляньце, што гэта за дым такі над вёскаю?

— Мусіць нешта нядобрае пачынаецца.

— Астап гэта-ж мусіць недзе каля нас, — казала Палуся.

— Но-але каля нас...

— Няма тут калі разяўляцца, ані воза цягнуць, — казаў дзясятнік, — трэба барджджэй бегчы вёску ратаваць, гэта-ж лета, усё як порах.

Усе грамадою рынуліся ў вёску. Гарэла старая Астапава хата. Яе ўжо ратаваць ня было чаго, затое яшчэ змаглі выратаваць дрэва падрыхтаванае для будовы новае хаты і не далі заняцца суседнім будынкам.

Калі ўжо пажар прыгасілі, Астап падбег да дзясятніка:

Дзякую табе, сынку, што памог выратаваць хоць гэта, і паказаў на дровы, — а так зусім прапаў-бы.

— Усім дзякуйце, усе памагалі. Вось бачыце з людзьмі ніколі не прападзяце, а вы ўсё ад людзей уцякаеце.

— Што ты, нябож, кажаш; я заўсёды з людзьмі.

На гэтае надыйшоў паліцыянт і пачаў распытваць як здарыўся пажар? Ці шмат згарэла дабра? На колькі была застрахавана старая хата? Кончыліся гэтыя допыты тым, што паклікаў Астапа напісаць пратакол.

- - Ах, Божа-ж мой! Яшчэ адна бяда, — лямэнтавала Палуся, — яшчэ чаго ня было, а хоць ты жыўцом у вір галавою кідайся...

— Нічога, цётка Палуся, — супакойваў яе дзясятнік, — дзяцька Астап зараз вернецца, а калі і трэба было-б яго ратаваць, дык мы ў каморку хавацца ня будзем, але можа за гэты час і дзядзька Астап адвыкне хавацца ад людзей у каморку тады, калі людзкая бяда да яго выцягвае анешчасьліўленую руку.

— У якую каморку ён хаваўся?

— А во ў тую, што сёньня згарэла і дай Бог каб датуль не адбудаваўся, пакуль у вас не прачнецца людзкое сэрца і сумленьне.

Людзі слухалі, а Палуся маўчала.

**Анатоль Жменя.**

# МІЖНАРОДНАЕ ПАЛОМНІЦТВА Ў ЛЮРД

Міжнародная арганізацыя « Pax Christi in regno Christi », якая існуе толькі ад 1945 г. мае ўжо больш мільёна сяброў між 32 народаў. Мэтаю гэтае арганізацыі ёсьць прычыніцца сваімі малітвамі да ўмацаваньня і распаўсюджаньня веры, да духовага развою ўсіх народаў і да замацаваньня міжнароднага міру.

З ініцыятывы гэтае арганізацыі сёлета ў днёх 21-25 ліпеня адбылося другое Міжнароднае Паломніцтва ў Люрд — мейсца цудаў сусьветнае славы, дзе ў 1858 г. зьявілася Маці Божая ўбогай 14-цігадовай дзяўчыне Бэрнардэце Субіру.

Наплыў паломнікаў перавысіў спадзяваньні самых арганізатараў; больш 25 тысяч вернікаў ад 36 народаў удзельнічала ў гэтай велічнай урачыстасьці. Большыя і меншыя прадстаўніцтвы ўсюды былі раўнапраўнымі сябрамі. У працэсіях за Найсьвяцэйшай Эўхарыстыяй і вечерам у працэсіях з сьветачамі кожны народ займаў сваё мейсца ў альфабэтычным парадку. Невялікая беларуская група займала другое мейсца між Бэльгіяю і Брытаніяю, ды для шматлікіх была прадметам вялікага зацікаўленьня. Калі пасьля першае працэсіі наша група зьбіралася зрабіць фатаграфію, дык з усіх бакоў пачалі пстрыкаць цэлыя дзясяткі фотаапаратаў, а потым яшчэ доўга вялікая грамада зацікаўленых з алавікамі ў руках і без алавікоў аблягала беларускіх паломнікаў з рознымі пытаньнямі. У гэтым якраз і ёсьць практычнае асягненьне міжнароднага паломніцтва, што людзі маюць добрую нагоду пазнаць сябе ўзаемна. Пазнаём і мы іншых так дальшых народаў, як і бліжэйшых суседзяў. Для шмат каго быў вельмі многазначным факт, што невялікая група палякаў, паказаўшыся першага дня, потым дзесьці зьнікла бясьсьледна.

На праграму Паломніцтва складаліся ўрачыстыя багаслужэньні, малітвы, зборкі паасобных нацыянальных групаў і канфэрэнцыі аб сутнасьці хрысьціянскага міру.

Дакладчыкі, між якімі асабліва вырозьніўся Тулюскі архібіскуп Гаррон, далі слухачом шмат матэрыялу да думаньня. Нават агульна ведамыя праўды ў гэтым сьвятым мейсцы стаюцца больш яснымі, калі чуем словы прамоўцы: «Вонкавы мір ёсьць праявам нутранага міру... калі-ж пажаданьні апаноўваюць людзкую душу, дык няма міру ў сэрцы чалавека, няма яго і ў сьвеце. Кожны павінен сабе ўсьведаміць, што ня толькі ён сам хоча жыць на зямлі... але і кожны іншы чалавек... і кожны народ.

У выніку няшчырасьці і падвойнае маралі юрыдычны мір палітыкаў заўсёды быў нятрывалы.., а ў валадастве Хрыста няма падвойнае маралі... Аднак сам мір ня станецца, для яго трэба шмат ахвяроўваць. Хрысьціяне багатыя беднасьцю і ахвярнасьцю — гэта мы мусім прынесьці ў ахвяру для агульнага міру і тады ён будзе пэўны і непамыльны...»

Быццам практычным паказам хрысьціянскага міру былі вячэрнія працэсіі з сьветачамі, калі ўся нязьлічаная таўпа паломнікаў падчас цэлагадзіннага паходу сугучна пяяла песьню аб паяве Багародзіцы, сьпяваючы кожны на сваёй роднай мове. Здавалася, што ня толькі людзі, але вакольныя горы, лес і сьцены сьвятыні ўдзельнічаюць у гэтым чудова сугучным сьпеве.

Пасьля працэсіі прысутныя кардыналы і біскупы багаславілі ўсіх вернікаў. Паволі гасьлі тысячы сьвечак, паволі расходзіўся шматтысячны натаўп, але ў сэрцы кожнага расла вера, што Бог выслухае такую магутную малітву, успаможаную заступніцтвам Найсьвяцейшае Дзевы, дык нічога дзіўнага, што не адзін з нас тады ціха зьвяртаўся да Яе яшчэ і яшчэ раз:

Вылеч, Ты, сэрца нам раны глыбокія,
Міласьцяй чыстаю нас запалі,
Каб хвала Божая, не жальба вечная
У неба ляцела, ляцела з зямлі...

асабліва з таго кутка зямлі, якую Ты, Божа, прызначыў нам на шматпакутную Бацькаўшчыну-Беларусь!

**Паломнік.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## ДЭКРЭТ КАНГРЭГАЦЫІ СЬВ. УРАДУ Ў СПРАВЕ КАМУНІЗМУ.

У зьвязку з вострым наступам камунізму на Каталіцкую Царкву і рознымі іхнымі хітрымі подступамі дэзарганізацыі вернікаў, было пастаўлена Кангрэгацыі сьв. Ураду чатыры пытаньні:

1. Ці можна запісвацца ў сябры камуністычнае партыі, або спамагаць яе якім колечы спосабам?

2. Ці можна публікаваць, распаўсюджваць і чытаць кніжкі, часопісы або лістоўкі, якія падтрымоўваюць камуністычную навуку, або быць у іх карэспандэнтам?

3. Ці можна дапускаць да сьв. Тайнаў вернікаў, якія сьведама і дабравольна выконваюць учынкі пералічаныя ў двух першых пунктах?

4. Вернікі, якія вызнаюць матэрыялістычную і антыхрысьціянскую навуку камунізму і асабліва тыя, якія яе абараняюць і пашыраюць, ці яны, як апастаты ад каталіцызму, падлягаюць кары выкляцьця спэцыяльным способам зарэзэрвованае Апостальскаму Пасаду?

На сваім поўным паседжаньні 28-га чэрвеня Кангрэгацыя сьв. Ураду адказала на вышэйпаданыя пункты гэтак:

На 1-ы адмоўна, бо камунізм і матэрыялізм ёсьць антыхрысьціянскімі. Хоць часам камуністычныя правадыры заяўляюць на словах, што яны не нападаюць на рэлігію, на дзеле яны выяўляюць заўсёды сваю варожасьць да Бога, рэлігіі і да Хрыстовае Царквы.

На 2-і адмоўна, бо ўсё пералічанае ў гэтым пункце асуджана царкоўным правам (Канон 1399).

На 3-і адмоўна паводля звычайных прынцыпаў не дапускаць да сьвятых Тайнаў тых, хто ня мае належнае дыспазыцыі да іх прыняцьця.

4-ы падцьвярджаючы. Гэта значыць, што пералічаныя ў гэтым пункце падлягаюць кары выкляцьця-экскамунікі.

Сьвяцейшы Айцец гэтую пастанову падцьвердзіў і яна цяпер абавязвае ўсіх вернікаў.

## ВЫДАТНЫ ЮБІЛЕЙ.

Сёлета ў днёх 25-26-га чэрвеня ў Стамфордзе (ЗША) грэка-каталікі украінцы ўрачыста азначылі 25-годзьдзе япіскапства Іх Эксцэленцы В. Прэосьвяшчэннага Канстанціна Багачэўскага.

На гэтыя дні з усіх канцоў ЗША і Канады прыехалі ў Стамфорд дэлегаты ад украінскіх каталіцкіх грамад, каб ушанаваць дастойнага Юбілята; прыбылі шматлікія мяйсцовыя вернікі (каля 4-х тысяч), зьехаліся шматлікія прадстаўнікі ад украінскага духавенства і ад амэрыканскае каталіцкае ерархіі, а так-жа прыбыў Дэлегат Апостальскага Пасаду ў ЗША Іх Эксцэленцыя А. Чіконянія.

Урачыстая Служба Божая, якую з гэтае нагоды адправіў сам Юбілят, адбылася на нядаўна-закупленай плошчы, на якой умысна да гэтае ўрачыстасьці быў выбудаваны мастацка аформлены павілён і аўтар.

Велічна выглядала гэтая плошча, калі ў нядзелю 26-га чэрвеня, а гадз. 10,30 вышаў туды дастойны Юбілят у суправаджэньні Апостальскага Дэлегата, 4-х біскупаў, шматлікага духавенства і вернікаў.

Падчас Службы Божае прамаўлялі: сам Эксц. Канстанцін Багачэўскі, заклікаючы вернікаў да непахіснага прывязаньня да Каталіцкае Царквы; а пасьля прамаўляў Апостальскі Дэлегат Эксц. А. Чіконянія, выказваючы заслугі дастойнага Юбілята.

Пасьля Службы Божай ў адной з большых заляў Украінскае Калегіі сьв. Базыля было наладжана ўрачыстае прыняцьце на чэсьць Юбілята, а папалудні а гадз. 4 узгадаванцы Малое Украінскае Сэмінарыі ў супрацоўніцтве з выдатнымі украінскімі салістамі наладзілі вельмі ўдалы канцэрт.

Для украінскае эміграцыі такі сьветлы юбілей зьяўляецца вялікаю духовою падтрымкаю, бо якраз прыпадае тады, калі іхняя каталіцкая ерархія на бацькаўшчыне цярпіць за веру жахлівыя мукі на засланьні.

Мы выкарыстоўваем гэтую нагоду, каб ад імені нашае сьціплае рэдакцыі пасланць гэтым шляхам дастойнаму украінскаму ерарху Эксцэленцыі Канстанціну Багачэўскаму шчырае пажаданьне, каб міласэрны Бог дазволіў яму яшччэ хутка дачакаць вялікае радасьці аднаўленьня і росквіту каталіцкае ерархіі і Каталіцкае Царквы на вольнай Украіне, а самому працаваць яшчэ для украінскае эміграцыі **даўжэйшыя годы!**

## У ГРЭЦКАЙ ЦАРКВЕ.

На мейсца нядаўна памершага галавы Грэцкае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы м. Дамаскіноса абрана Яньнінскага мітр. Спірыдоноса Влагос.

## У РУМЫНІІ АРЫШТАВАНЫ ЎСЕ КАТАЛІЦКІЯ БІСКУПЫ.

З Вашынгтону паведамляюць, што 26-6 румынскі ўрад арыштаваў эксц. Мартэна біскупа Альба-Юлія, а 25-6 эксц. Дуркавічы біскупа Ясаў — гэта былі два апошнія р.-каталіцкія біскупы ў Румыніі ад кастрычніка мінула году, калі там былі арыштаваны 3 р.-кат. біскупы і ўсе 6 грэка-кат. біскупаў.

## РАЗЬВЯЗАНЬНЕ МАНАШЫХ ЧЫНАЎ.

Камуністычная ўлада ў Румыніі пастановаю рады міністраў нядаўна разьвязала 15 каталіцкіх рэлігійных чынаў на абшары Румыніі. Між разьвязанымі чынамі знайходзяцца: Кангрэгацыя Багародзіцы з Сыёну, сёстры чыну Найсьвяцейшае Дзевы Марыі, сёстры сьв. Вінцэся а Паўлё і інш.

## ПАЛАЖЭНЬНЕ КАТАЛІЦКАЕ ЦАРКВЫ Ў ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЕ ПАГАРШАЕЦЦА.

З Чэхаславаччыны штодня дайходзяць сумнейшыя весткі аб становішчы Катал. Царквы. Палац Праскага архібіскупа занялі паліцыйныя ўлады і пасадзілі там свайго агента, які забраў рхібіскупскую пячатку і фармуляры ды выдае ад імені архібіскупа розныя распараджэньні і загады. Сам архібіскуп Бэран знайходзіцца ў сваім палацы пад дамовым арыштам. Аднак не зважаючы на гэткія мерапрыемствы ўладаў, не зважаючы на гэты новы спосаб прасьледу, які можна назваць «халодным прасьледаваньнем нэрваў», аграмадная бальшыня вернікаў і духавенства асталася вернаю сваей ерархіі.

## НАЙСТАРШЫ ХРЫСЬЦІЯНСКІ МАГІЛЬНІК.

З Ерузаліму паведамляюць, што на Бэтлеемскай дарозе недалёка ад Ерузаліму прафэсар жыдоўскага Унівэрсытэту адкрыў невялікі стары магільнік усяго з 14 магіл. У гробах знойдзена старыя манэты з 42 і 43 гадоў па Хрысьце. На некаторых гробах захаваліся выразныя знакі крыжа, што сьведчыць аб тым, што ў іх пахаваныя хрысьціяне. Гэты магільнік ёсьць адною з найстарэйшых хрысьціянскіх раскопак і зьяўляецца гістарычным доказам, што ўжо 10 гадоў пасьля ўкрыжаваньня Хрыста, там было пашырана хрысьціянства.

## «ЦІХАЯ МАЛІТВА».

У Злучаных Штатах Паўн. Амэрыкі, у Вялікабрытаніі і некаторых каталіцкіх краінах ёсьць звычаёвае права, што кожнае паседжаньне іхных парлямэнтаў пачынаецца малітваю, таму прадстаўнікі гэтых краінаў даўжэйшы час слалі шматлікія лісты ў Сакратарыят Злучаных Нацыяў з рознымі рэклямацыямі, чаму ўсе паседжаньні гэтае сусьветнае арганізацыі адбываюцца без малітвы. Аўтары лістоў былі: каталікі, пратэстанты, жыды, буддысты, шынтаісты, музульмане.

Пад напорам гэтых дамаганьняў гэнэральны сакратар Трыгвэ Лі, выступіў цяпер з прапановаю, каб завесьці «ціхую малітву» перад кожным паседжаньнем Аб'еднаных Нацыяў. Паводля гэтае прапановы усе члены асамблеі перад паседжаньнем правядуць стоячы мінуту моўчанкі-разважаньня, падчас якое кожны сябра асамблеі можа маліцца пасвойму, а бязбожнікі-камуністы могуць сабе прыпомніць Ё. Джугашвілі.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## БАЦЬКАЎШЧЫНА.

### Зьмены архірэяў.

У студзені гэтага году адбыліся паважныя зьмены савецкіх «праваслаўных» япіскапаў на Беларусі.

Гарадзенскі яп. Варсофоній (Грыневіч) перанесены ў Семіпалацінск, а на яго мейсца назначаны яп. Паісій (Образуев) быўшы Берасьцейскі. Берасьцейскі пасад тымчасам пустуе.

Архіяп. Данілу (Юзьвюку) прысвоены тытул Пінскага і Палескага замест ранейшага Пінскага і Лунінскага.

У Вільню назначаны архіяп. Фотій (Тапіро), які калісьці быў у Парыжу. У Жыровіцкі манастыр перанесены на спачынак архіяп. Іван (Братолюбов), звольнены з Уфімскага пасаду. (ЖМП).

### Перанясеньне мошчаў сьв. Віленскіх мучанікаў.

Дня 30 студзеня г.г. мошчы сьвятых віленскіх мучанікаў Антона, Івана і Еўстафія былі перанесены з верхняе царквы Сьвятадухаўскага манастыра ў ніжнюю царкву, дзе яны і знайходзіліся раней. (ЖМП).

## АРГЭНТЫНА.

### Беларусы на банкеце ў грэкаў.

З нагоды ад'езду з Буэнос Айрэс на бацькаўшчыну быўшага грэцкага міністра нутраных спраў К. Маніядакіса грэцкае грамадзянства ў Буэнос Айрэс зладзіла на яго чэсьць вялікі банкет, на які былі запрошаны прадстаўнікі аргэнтынскіх уладаў, духавенства, а так-жа і прадстаўнікі ўсходняэўрапэйскіх народаў. Між імі быў запрошаны і беларускі прадстаўнік ад БНР К. Мерляк, які ў часе прывітальных прамоваў сказаў міністру, а праз яго ўсяму грэцкаму народу прывітаньне ад беларускага народу.

## БЭЛЬГІЯ.

### Трэці Агульны Зьезд СББ.

Дня 17-га ліпеня г.г. адбыўся ў Лювэн Трэці Агульны Зьезд Саюзу Беларусаў у Бэльгіі. На Зьезьдзе было 32 дэлегаты ад паасобных адзьдзелаў. Пасьля агульнае справаздачы і абсалюторыі для ўступаючае ўправы, адбыліся выбары новае ўправы, створана новыя рэфэраты і намечана плян працы на бягучы год.

## КАНАДА.

### Першы Агульны Зьезд ЗБК.

Дня 28-V г.г. адбыўся ў Торонто першы Агульны Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе. Так між новаю, як і старою эміграцыяю, за выняткам некаторых асяродзьдзяў, было вялікае зацікаўленьне Зьездам, таму сабралася нямала прысутных.

Праграма Зьезду была даволі вялікая. Выслухаўшы справаздачы часовае Ўправы і Нагляднае Рады, быў прыняты статут і выбрана Галоўную Управу, Наглядную Раду і Сяброўскі Суд. У склад Галоўнае Управы ўвайшлі: старшыня — К. Акула заступнік старшыні — А. Грыцук, скарбнік — Я. Пітушка, сакратар — В. Навіцкі. Наступна прынята пастановы аб легалізацыі ЗБК, аб куплі свайго дому, выдана заклік да беларусаў у Канадзе і выслана рэзалюцыю прэм'ер міністру Канады.

Гэты Зьезд зьяўляецца паважным этапам у арганізацыйным жыцьці беларусаў у Канадзе, і гэтак яго аценілі ня толькі беларусы, але і канадзкія ўлады — аб гэтым сьведчыць той факт, што на рэзалюцыю Зьезду канадзкае Міністэрства Замежных Спраў дня 9-га чэрвеня прыслала свой адказ, зазначаючы, што самая рэзалюцыя ўзята пад увагу адпаведнымі дзейнікамі. (Б. Эмігрант).

### Літаратурны вечар.

Сёлета 28-VI мінула 7 гадоў ад дня трагічнае сьмерці Янкі Купалы. Для азначэньня гэтых угодкаў Згуртаваньне Беларусаў у Канадзе дня 26-VI ладзіла адпаведны да гэтых угодкаў літаратурны вечар у Торонто, на якім А. Грыцук і В. Навіцкі прачыталі рэфэраты аб жыцьці, дзейнасьці і перажываньнях Я. Купалы. Рэфэраты суправаджаліся дэклямацыямі. Не зважаючы на гарачае надвор'е Вечар прайшоў вельмі ўдала і на прысутных зрабіў добрае ўражэньне. (Б. Эмігрант).

## ФРАНЦЫЯ.

### Летні перапынак на курсах.

У Парыжу на Беларускіх Грамадзка-Адміністрацыйных курсах, якія наведвала да 20 асобаў, закончана першую частку праграмы і на гэтым зроблены перапынак на летні час. Наступная частка курсаў, якая будзе яшчэ пашырана выкладамі з эканоміі, пачнецца ў верасьні.

### Беларускі Архіў.

Пры Бібліятэцы Усходніх Моваў у Парыжу заснавана Беларускі Архіў. У інтарэсе ўсяе беларускае эміграцыі, асабліва выдаўніцтваў і рэдакцыяў беларускіх часапісаў падтрымаць гэтую інстытуцыю, прысылаючы свае выданьні на адрэс:
Bibliothèque des Langues Orientales Vivantes, Archives Biélorussiennes, 2, rue de Lille, Paris VII, (France).

### Зборка на беларускія арганізацыі.

На хрысьцінах у Я. Буйвілы праведзена зборку на беларускія арганізацыі, у выніку сабрана 4064 фр.

### Справа рэестрацыі ў ІРО.

Падаецца да ведама ўсіх беларусаў пражываючых на абшары Францыі, што апошні тэрмін рэестрцыі ў ІРО мінае 31-га жніўня. Да гэтае самае даты ўсе перамешчаныя асобы могуць зглошваць сваё жаданьне на эміграцыю ў іншыя краіны.

Тыя з эмігрантаў, якія ўпісаныя ў якінебудзь адзьдзел ІРО ў іншых краінах, на абшары якое пражывалі перш, ня маюць патрэбы ўпісвацца другі раз, але затое яны павінны мець з сабою даведку аб гэтым запісе ў ІРО.

Усе ўпісаныя ў ІРО карыстаюцца да часу закончаньня дзейнасьці ІРО (г. зн. 30-га чэрвеня 1950 г.) праўнаю і палітычнаю апекаю, матэрыяльнаю дапамогаю, эміграцыйнымі магчымасьцямі і рэпатрыяцыяю.

Калі ўпісаныя ў ІРО знайходзяцца ў цяжкім матэрыяльным палажэньні і да гэтага часу не атрымоўваюць дапамогі з ІРО, дык могуць аб гэтым старацца да 30 сакавіка 1950 г.

У інтарэсе самых-жа беларусаў выкарыстаць гэты кароткі час і перасляць просьбу аб рэестрацыі на адрэс:
I.R.O., 7, rue Copernic, Paris. 16.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД.

Апошнім часам зложылі на выдавецкі фонд «Божым шляхам»: Госцеў Ю. — 200 фр., Буйвіла Я. — 500 фр., Дубановіч К. — 350 фр., Елешэвіч П. — 1000 фр., Лысуха М. — 500 фр., Махнач М. — 740 фр., Мурашко Ю. — 300 фр., Нагорны Б. — 200 фр., Хоміч М. — 500 фр., Хомчык М. — 950 фр., Шыманец У. — 350 фр., Шымчык А. — 200 фр.

## З Ь М Е С Т.




Gérant : D. Kucopej. Directeur : Abbé L. Horosco.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.